# САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ ДЭЛЕГАТАМ V З'ЕЗДА БГКТ

**V З'ЕЗД БГКТ**

26 і 27 ЛЮТАГА Г. Г. АДБУДЗЕЦЦА Ў БЕЛАСТОКУ V З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА. З'ЕЗД ПАДВЯДЗЕ ВЫНІКІ ДЗЕСЯЦІГАДОВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ БГКТ І ВЫЗНАЧЫЦЬ НАПРАМКІ ДАЛЕЙШАЙ ПРАЦЫ.

ПРАЦА З'ЕЗДА ПРАХОДЗІЦЬ БУДЗЕ Ў ПАМЯШКАННІ ГП БГКТ І ПАЧНЕЦЦА А ГАДЗІНЕ 10.


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (522) ГОД XI 27 ЛЮТАГА 1966 г. ЦАНА 60 гр


**ПАРАДАК ДНЯ V З'ЕЗДА БГКТ**

1. УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ З'ЕЗДА.
2. ДАКЛАД ГП БГКТ.
3. ДЫСКУСІЯ.
4. ВЫБАРЫ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ І ГАЛОЎНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ.
5. ПРЫНЯЦЦЁ ПАСТАНОЎ.
6. МАСТАЦКАЯ ЧАСТКА Ў ВЫКАНАННІ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ БГКТ.

## НАШЫ ДАСЯГНЕННІ

(З даклада ГП БГКТ на V з'езд Таварыства)

Жывем і працуем мы ў той шчаслівы час, калі ўпершыню ў гісторыі інтарэсы дзяржавы не толькі не стаяць у разрэз з інтарэсамі нацыянальных меншасцей, але наадварот, калі ў інтарэсе самой дзяржавы з'яўляецца поўнае развіццё гэтых меншасцей.

З перамогай рэвалюцыі ў Польшчы пачалася новая эпоха ў жыцці беларусаў. Найвялікшым дасягненнем яе ў беларускім асяроддзі з'яўляецца тое, што яна падняла да актыўнай творчасці ўсіх беларусаў, вырвала іх з цемры і адсталасці.

Народная ўлада стварыла нам спрыяльныя ўмовы для арганізацыйнага жыцця, для вядзення працы на роднай мове і ў нацыянальных традыцыях.

Сённяшні з'езд закрывае 10-цігадовы перыяд дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Усе гады нашай дзейнасці знаменаваліся пошукамі найбольш эфектыўных форм працы, тварэннем матэрыяльнай базы, гуртаваннем актыву да рэалізацыі пастаўленых перад БГКТ заданняў. У кожнай галіне яго працы ў паасобных гадах былі свае дасягненні і былі недахопы. Пэўным з'яўляецца толькі факт вялікага сталага ўздзеяння Таварыства на грамадска-культурнае жыццё беларускай нацыянальнай меншасці ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

Зараз Беларускае грамадска-культурнае таварыства налічвае 5 550 членаў згуртаваных у 154 гуртках, якія падпарадкаваны 8 праўленням аддзелаў БГКТ.

Найвялікшымі аддзеламі, групуючымі па 1500 членаў, з'яўляецца Гайнаўка і Бельск, 1000 членаў налічвае арганізацыя ў горадзе Беластоку, іншыя аддзелы меншыя, хоць маюць таксама перспектывы развіцця.

Беларускае таварыства мае добры актыў як у аддзелах так і пры Галоўным праўленні. Многія з гэтых людзей выконваюць абавязкі з вялікай ахвярнасцю і добрасумленна.

Наша Таварыства, асабліва ў першых гадах сваёй дзейнасці, многа ўвагі прысвячала стварэнню базы дзейнасці арганізацыі, якая не мела на пачатку фактычна нічога. Зараз мы маем уласнае памяшканне дастасаванае да патрэб культурнай працы Таварыства, поўнае абсталяванне ГП і ўсіх аддзелаў БГКТ, у тым ліку сучаснае клубнае абсталяванне ў Беластоку, Варшаве, Гайнаўцы, маем аўтамашыны, кінаапаратуру, дзесяткі вартасных інструментаў музычных і сотні народнага адзення. Усё гэта дазваляе пашыраць нам працу.

Найвялікшае ўздзеянне аказвае прэсавы орган ГП штотыднёвік «Ніва», якая рэгулярна выходзіць ужо 10 год.

Рэдакцыя «Нівы» добра выконвае свае асноўныя заданні. Выпрацавала яна свой профіль. Бясплатны дадатак «Зорка» аказвае велізарны ўплыў у выхаванні і навучанні дзяцей беларускай нацыянальнай меншасці.

Характэрна, што на працягу 10 год падпіска «Нівы» амаль падвоілася.

Другой галіной дзейнасці БГКТ, якая за 10-годдзе аказала на беларускае насельніцтва вялікае ўздзеянне, прынесла арганізацыі папулярнасць і аўтарытэт, была выдавецкая дзейнасць. За гэты час выдадзена 17 кніжак, а менавіта: 10 каляндароў, 2 навуковыя зборнікі, 6 літаратурных кніжак як: «Рунь», «Дзядзька Лявон», «Белавежскія матывы», «Мой родны кут», «Прамень думкі» і літаратурны альманах «Белавежа». Агульны тыраж усіх выданняў склаў 74 600.

На выдавецтвах ГП БГКТ насельніцтва вучылася чытаць па-беларуску, пачула патрэбу карыстання з бібліятэчных кніжак.

Сярод шматкірунковай дзейнасці БГКТ ад пачатку існавання арганізацыі выдзяляецца прапагандова-лектарская праца: гутаркі, даклады, гутаркі па радыёвузлах.

Кароткія гутаркі праводзяцца найчасцей на акалічнасныя тэмы перад кінасеансамі, выступленнямі эстрады «Лявоніха» і аматарскіх калектываў, і гэтак далей. За 10 год праведзена іх 1564.

Даклады праводзяцца найчасцей членамі лектарскай групы, якая існуе пры ГП. На працягу 10 год існавання Таварыства праведзена каля 440 дакладаў на розныя тэмы як: міжнароднае становішча, дасягненні ПНР у паасобных галінах яе жыцця, аб польска-беларускіх культурных сувязях, гісторыі БССР, працы БГКТ, на сельскагаспадарчыя тэмы і гэтак далей. Лік дакладаў узрастаў з на годы розных гадавін і агульнадзяржаўных кампаній.

(Працяг на стар. 2)

**10 год БГКТ**

## ЮБІЛЕЙНАЕ

*Дзеячам БГКТ прысвячаю*

Дзесяць год ў гісторыі — нямнога,
Быццам дзесяць макавых зярнят.
Дзесяць год аднак жыцця людскога
Гэта, безумоўна, вельмі шмат.

Дзесяць год аддадзеных народу —
Не патрачан надарэмна час.
Працаю Вы ўнеслі свежы подых
У новае жыццё народных мас.

Дых наперад! Дружна і упарта
Новыя вяршыні здабываць.
Для народа жыць напэўна варта,
Для народа варта працаваць!

ВІКТАР ШВЕД



## Багаты плён дыскусіі

У перадз'ездаўскай дыскусіі аб паляпшэнні працы Беларускага грамадска-культурнага таварыства на старонках «Нівы» забрала голас 16 асоб. Ва ўсіх дыскутантаў адчуваліся шчырыя клопаты і імкненні адносна ўдасканалення стылю і форм працы БГКТ, адносна большага ўплыву нашай арганізацыі на беларускае асяроддзе. Трэба сказаць, што дыскусія была вельмі плённая. Дала яна многа канкрэтных прапаноў.

Хто браў удзел у гэтай дыскусіі? І так, у перадз'ездаўскай трыбуне на старонках «Нівы» выступіла: 4-ох педагогаў, 3-х штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ, 4-ох журналістаў, 2-х пенсіянераў, 1 працаўнік музея, 1 бібліятэкар і 1 рамеснік. Палавіна дыскутантаў, гэта значыць 8 асоб, жыве ў Беластоку, 3-ох у Варшаве, 2-ух у Бельску, 2-ух на Гайнаўшчыне і адзін у Торуні.

Уся дыскусія вялася ў асноўным вакол 3-ох праблем, а менавіта: 1) арганізацыйныя справы БГКТ, 2) культурна-асветныя, 3) навукова-літаратурныя.

У арганізацыйных справах дамінавалі пытанні аб ролі і значэнні гуртка на вёсцы. Адны даказвалі, што БГКТ са сваёй культурна-асветнай працай на вёсцы паспяхова можа ісці без гуртка, а другія — што калі не будзе гуртка, дык і не будзе арганізацыі БГКТ. Цікавым з'яўляецца тое, што малодшае пакаленне дыскутантаў аб гуртку выказваецца з песімізмам, а старэйшае пакаленне — з аптымізмам, што аб гуртку гаварылі людзі, якія жывуць у Беластоку, Варшаве, у Бельску і Гайнаўцы, але ніхто не забраў голасу ў дыскусіі з гуртка на вёсцы і не сказаў, на колькі ў практыцы маглі б выкарыстаны быць адны або другія прапановы.

Многа ўвагі ў арганізацыйных справах звернута на супрацоўніцтва БГКТ з арганізацыямі і установамі.

У гэтай дзялянцы працы ў нас многа недахопаў. І таму вельмі каштоўным з'яўляюцца прапановы С. Яновіча, калі ён гаворыць, што БГКТ не папрацавала дастаткова над тым, каб такія арганізацыі як: ЗМВ, ЗГП, ЛК, КГВ, ПДК, Аб'яднанні аматарскіх тэатраў, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі, бралі пад увагу нацыянальную спецыфіку. Аб недахопе каардынацыі працы з іншымі арганізацыямі і аб падборцы кваліфікаваных кадраў да працы ў БГКТ прысвяцілі, між іншым, свае публікацыі таксама Арцём Чыквін, Васіль Дзун, Уладзімір Станкевіч, Віктар Швед і іншыя. Уладзімір Паўлючук прапануе, каб апрача індывідуальнага членства існавала яшчэ калектыўнае членства, і каб індывідуальныя члены БГКТ уплачвалі на конт таварыства акрэсленую гадавую складчыну і атрымлівалі ад таварыства ўсе яго выданні з «Нівою» ўключна. Гэты прапановы неяк не знайшлі падтрымкі ў дыскусіі.

Нельга згадзіцца з сябрам Кастусём Сідаровічам адносна разбудовы штатнага апарата і паклікання столькі намеснікаў старшыні і сакратароў. Поўнасцю, аднак, трэба падтрымаць тое, што актыў, а перш за ўсё штатныя працаўнікі БГКТ, павінны быць патрыётамі роднай мовы.

Напэўна правільна падкрэслівалі дыскутанты той факт, што ў нас мастацкая самадзейнасць павінна шырэй развівацца, што гурткам БГКТ трэба дапамагаць у іх працы.

З культурна-асветнай праблематыкі на асаблівае падкрэсленне заслугоўвае дыскусійны артыкул А. Карпюка пад загалоўкам «Шкодная інтэрпрэтацыя ролі БГКТ у галіне асветы». У ім гаворыцца аб тым, што «калі не было БГКТ, асветныя ўлады больш цікавіліся школьніцтвам, а калі стала БГКТ існаваць, беларускім школьніцтвам займаюцца яны толькі фармальна».

І тут роля БГКТ як інспіратара і сігналізатара павінна быць значна большая. Дырэктар беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску, Мікола Гайдук, між іншым, выступае з пастулатамі, каб унесці ў статут папраўку аб доступе школьнай моладзі ў БГКТ. Гэтую вельмі істотную справу павінен вырашыць з'езд.

Дыскусія звярнула ўвагу на далёка недасканалы рэпертуар для мастацкіх гурткоў, на змест дакладаў і радыёгутарак, на ўзровень «Лявоніхі», на інструктарскія кадры для гурткоў і т. д. Адным словам цэлая крыніца карысных прапаноў для далейшай працы.

(Працяг на стар. 2)

 




★ НАШЫ ІНТЭРВ'Ю ★ НАШЫ ІНТЭРВ'Ю ★ НАШЫ ІНТЭРВ'Ю ★

# Як вы ацэньваеце дзесяцігадовую дзейнасць БГКТ?

## Вашы прапановы на другое дзесяцігоддзе?

## Адказваюць дзеячы Таварыства



**СЯРГЕЙ КРЭЙЗА — старшыня аддзела БГКТ у Мілейчыцах.**

1. Наступіў велізарны ўплыў на насельніцтва беларускага слова і беларускай культуры. Умацавалася дружба паміж палякамі і беларусамі. Асабліва спрыялі гэтаму канцэрты «Лявоніхі». Вялізную прапагандова-інфармацыйную ролю адыграла «Ніва». Ужо сам факт выхаду «Нівы» меў вялікі ўплыў на самаадчуванне беларускага насельніцтва, на пачуццё годнасці і нацыянальнага гонару.

Затым вялікую ролю адыграла выдавецкая дзейнасць. Кніжкі, выдадзеныя ГП БГКТ, асабліва календары, карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Дзякуючы гэтаму і таксама навучанню беларускай мовы ў школах беларуская літаратурная мова аказвае ўсё большы ўплыў на дыялект.

2. Шырэй разгарнуць працу ў напрамку знаёмства беларускага і польскага насельніцтва з гісторыяй супольнай барацьбы беларусаў і палякаў за станаўленне народнай улады ў Польшчы. Знаёміць з гэтымі падзеямі асабліва моладзь.

Неабходна пашырыць сетку беларускіх школ.



**МІКАЛАЙ ЛЕБЯДЗІНСКІ — заслужаны настаўнік**

Памятаю дзейнасць Таварыства ад самага яго нараджэння, сітуацыю, у якой была беларуская грамадскасць у той час і яе сённяшняе становішча. Хіба ж будзе слушнае сцверджанне, што міма шмат якіх аб'ектыўных прычын, зроблена вельмі многа ў галіне буджэння і развіцця нацыянальнай свядомасці і развіцця культуры.

Якія ж гэта аб'ектыўныя прычыны, якія ўплываюць адмоўна на большыя асягненні ў культурна-асветнай дзейнасці Таварыства?

Трэба сцвердзіць, што занікаюць даўныя звычаі, песні, якія складалі галоўныя элементы арыгінальнай і багатай беларускай духовай культуры. Назіраецца масавая міграцыя моладзі ў горад, дзе яна расплываецца ў польскай стыхіі і параўнальна лёгка асімілюецца. І таму дзейнасць Таварыства ў напрамку арганізацыі гурткоў выдабыцця, паказу прыгожасці нашай народнай духовай культуры спаўняюць вялікую выхаваўчую ролю. У гэтай працы Таварыства мае вялікія дасягненні.

Зроблена шмат, але ёсць яшчэ працы, як кажуць, непачаты край. У будучыні яшчэ большую ўвагу трэба звярнуць на развіццё беларускага школьніцтва, якое ўсцяж змагаецца з вялікімі цяжкасцямі і перашкодамі. Цяжкасці гэтыя агульнавядомыя — гэта хранічны брак тых ці іншых навуковых дапаможнікаў, і гэта найбольш знеахвочвае як дзяцей так і настаўнікаў. У шмат якіх мясцовасцях наглядаюцца непрыхільныя адносіны бацькоў і дзяцей да абавязку навучання роднай мовы, трактуючы яе як дадатковы непатрэбны прадмет. Гэта далёка не поўны пералік тых цяжкіх каменняў і бярвенняў, якія ляжаць на шляху цяжкай працы нашага Таварыства. Трэба быць яму ўдзячным за тую працу, якую не ўдалося зрабіць і пажадаць, каб у будучай працы было меней тых каменняў і бярвенняў на шляху.



**ВАСІЛЬ ДЗУН — член ГП БГКТ, актывіст Гайнаўскага аддзела.**

1. Найбольшыя дасягненні ў галіне выдавецкай дзейнасці. Дзесяць год выходзіць тыднёвік «Ніва», выдаецца дадатак да яе «Зорка» і літаратурная старонка «Белавежа». Штогод выдаецца каляндар. Выйшлі два альманахі і зборнік «Родны кут». Выдадзены вершы Бурша і Барскага, а таксама гумарэскі Дзядзькі Левана. Выйшлі два тамы навуковага зборніка і п'есы. Гэта зрабіць не так лёгка. Выданні Таварыства папулярны сярод насельніцтва. Пабольшваецца лік карэспандэнтаў «Нівы», асабліва сярод моладзі. Вялікую работу робіць «Лявоніха». Мяне вельмі цешыць таксама арганізаванне музея ў Белавежы.

2. Вельмі было б пажадана павялічыць кадры штатных працаўнікоў Таварыства. Асабліва ў Гайнаўскім і Бельскім паветах, дзе найбольш гурткоў. Арганізаваць на месцах Грамадскія камітэты таварыства. Гэта прычынілася б да спаборніцтва паміж грамадамі і цяснейшай сувязі з іншымі арганізацыямі, дзейнічаючымі на тэрыторыі грамады. Пажадана было б павялічыць фармат «Нівы». Больш выдаваць нашых маладых пісьменнікаў. Больш п'есак для аматарскіх гурткоў.



**АЛЯКСАНДР ЗАКРОЙШЧЫК — актывіст Гайнаўскага аддзела.**

1. Каб не было «Лявоніхі», «Нівы», календароў, аўтарскіх сустрэч з нашымі маладымі пісьменнікамі і рэпертуару для мастацкіх калектываў, дык мала адчувалася б на вёсцы існаванне Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

2. У будучай працы трэба навязаць цеснае супрацоўніцтва з ЛьЗС-ам, таму што моладзь ахвотна горнецца да спорту. Гавару гэта на прыкладзе сваёй вёскі. У нас моцная спартыўная каманда, вядомая нават у ваяводстве. У ёй шмат членаў БГКТ. Многія актывісты БГКТ «абвешаны» грамадскімі абавязкамі, быццам ёлкі. Скажу пра сябе. Маю я 10 грамадскіх функцый. Пажаданым было б, каб Павятовае праўленне БГКТ у паразумленні з павятовымі камітэтамі партыі аблегчылі працу некаторых актывістаў БГКТ, звальняючы іх ад абавязкаў грамадскай працы ў іншых арганізацыях.

**ХВЕДАР ГАЛЁНКА — старшыня галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ.**

1. Наступіла большае ўзаемнае зразуменне паміж абедзвюма часткамі насельніцтва Беласточчыны, г. зн. беларускай і польскай. Гэта дазволіла раўнамерна ўключыць абедзве гэтыя часткі ў сацыялістычнае будаўніцтва. Другім дасягненнем — уратаванне ад забыцця народных песень, легенд і казак, сабранне экспанатаў у рэгіянальны музей, а таксама ўпарадкаванне беларускага школьніцтва.

2. а) Неабходна наладзіць бліжэйшае супрацоўніцтва з прафсаюзамі і палітычнымі арганізацыямі, каб лепш уключыцца ў працу над далейшым збліжэннем беларусаў і палякаў. З гэтай мэтай трэба паклікаць пры кожнай грамадскай і прафсаюзнай святліцы калектывы з мешаным рэпертуарам, польскім і беларускім.

б) Наладзіць цяснейшую сувязь бібліятэкі ГП БГКТ з гарадскімі, вясковымі і прафсаюзнымі бібліятэкамі з мэтай арганізавання лепшага абеспячэння ўсіх бібліятэчных пунктаў адпаведнай колькасцю беларускіх часопісаў і кніжак. Гэта будзе спрыяць пашырэнню пісанага слова сярод беларускага насельніцтва Беласточчыны.

в) Неабходна весці далейшую працу над збіраннем і забеспячэннем фальклора, песень, казак, убораў, прыладаў і твораў народнага мастацтва.

г) Неабходна павялічыць у Беластоцкім радыё, «Беластоцкай газеце» і «Ніве» колькасць матэрыялаў на тэму дасягненняў Савецкай Беларусі.





**ЮРЫ ТУРОНАК — шматгадовы старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ.**

1. Ацэнка напэўна пазітыўная, асабліва ў параўнанні з мізэрным (за выключэннем адбудаванага школьніцтва) узроўнем культурна-асветнай працы сярод беларускага насельніцтва Беласточчыны перад паўстаннем БГКТ. Маю на думцы, вядома, культурна-асветную працу на беларускай мове і з улічэннем беларускай праблематыкі.

Ацэнка працы Таварыства пры гэтым даволі цяжкая. БГКТ цікавіцца хіба ўсімі пытаннямі грамадскага жыцця нашай нацыянальнай меншасці. Аднак у многіх важных галінах, як напр. школьніцтва ці культура было яно больш ці менш паспяховым памагатым адпаведніх дзяржаўных улад. Гэта, штопраўда, зразумела, аднак дзейнасці БГКТ у тых галінах ацаніць не вельмі ўмею. Можна, вядома, гаварыць аб развіцці школьніцтва ці культуры сярод беларускага насельніцтва, але не быў бы гэта адказ на пастаўленае пытанне.

Здаецца, што найбольш каштоўным поспехам БГКТ у першым 10-цігоддзі было згуртаванне і стварэнне магчымасці росту нашай інтэлігенцыі. У выніку маем і літаратурны рух, сотні аўтарскіх сустрэч, і пачаткі навуковых даследванняў і на канец выдавецкую дзейнасць.

Выключна важнай справай з'яўляецца таксама рост зацікаўлення беларускай культурай у нашым грамадстве. Узрос напэўна ранг беларускай мовы. Школы, мастацкая самадзейнасць, радыёвузлы, «Ніва» і «Зорка», немалая колькасць кніжных выданняў, якія разыходзяцца ў вялікіх, у параўнанні да ліку беларускага насельніцтва Беласточчыны, тыражах — маюць несумненна вялікае значэнне.

Здаецца, што БГКТ на працягу мінулага 10-годдзя нядрэнна папрацавала для нашага насельніцтва. Напэўна можна было зрабіць яшчэ больш. Ведаю, што ацэнка сучаснасці сучаснікамі даволі рэдка бывае правільнай. Ці і ў якой меры праца БГКТ аказалася карыснай для нашага народа — ацэніць гісторыя.

2. Ад 1963 г. (IV з'езд) няма ў мяне ахвоты на новыя прапановы.



**СЯРГЕЙ БАРОЎСКІ — кіраўнік школы ў Ласінцы.**

1. Беларускае таварыства ў значнай меры падняло значэнне роднай мовы. Асаблівую ролю адыграў рэпертуар для драмгурткоў, які шырока выкарыстоўваецца ў мастацкай самадзейнасці. БГКТ сваёю дзейнасцю прычыняецца таксама да ўмацоўвання нацыянальнай гордасці, да паменшання пачуцця прыніжанасці, калі разыходзіцца аб утойванні сваёй нацыянальнасці і аб адносінах да беларускага слова.

2. У далейшай працы БГКТ павінна звярнуць увагу на клуба-кавярні, на супрацоўніцтва з радамі клубаў і камісіямі культуры ГРН. Супрацоўніцтва гэта дасць многа карысці, таму што менавіта тут пачынае развівацца культурнае жыццё. Вельмі пільнай справай, якою павінна як найхутчэй заняцца ГП БГКТ, гэта стварыць магчымасць завочнай вучобы для выпускнікоў Завочнай настаўніцкай студыі, якія закончылі беларускую філалогію У нас у краіне няма пры універсітэтах завочнай філалогіі.

Сярод актывістаў БГКТ і настаўнікаў чуюцца такія галасы, што можна было б наладзіць завочнае абучэнне ў Мінску пры універсітэце або пры Педагагічным інстытуце ў Гродне. Ці ёсць такія магчымасці завочнага абучэння ў БССР, як найхутчэй павінна даведацца ГП.



**УЛАДЗІМІР НАВІЦКІ — актывіст гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.**

1. Між іншым цэлую дзейнасць ацэньваю пазітыўна, а перад усім у тым, што на працягу дзесяці год БГКТ зрабіла вельмі многа. Асабліва ў беларускім нацыянальным пытанні.

Да ўтварэння БГКТ беларусы ў Польшчы (якія хацелі сябе лічыць беларусамі) не ведалі, да каго залічыцца. БГКТ разбудзіла беларускае насельніцтва і падало напрамак і спосаб сужыцця з польскім народам. Ідучы гэтым напрамкам беларускае насельніцтва прычынілася да ўмацавання народнай улады ў Польшчы.

Разгорнуты рух абудзіў найбольшых «адхільнікаў» да прызнавання сябе беларусамі. Праявілася гэта таксама ў беларускай моладзі, што было вельмі важным.

2. Мае прапановы на другое дзесяцігоддзе, між іншым, былі б наступныя:

Прыцягнуць яшчэ больш моладзі ў рады членаў БГКТ і разгарнуць шырэйшую з імі працу, якую трэба прыстасаваць да асяроддзя. Бо моладзь — гэта будучыня. Моладзь — гэта прадаўжальнік, пачатага старэйшымі, будаўніцтва сацыялізма.

Да асягнення сацыялізма патрэбна свядомасць, а каб давесці свядомасць да мас, трэба падрыхтоўкі. У сувязі з тым у далейшым БГКТ павінна паклапаціцца ў апрацаванні асноўнай праграмы працы з моладдзю. Праграма не павінна быць аднастайнай. Павінна яна быць дастасаванай да асяроддзя, гэта значыць горада ці вёскі.

Каб больш уактыўніць слабапрацуючыя аддзелы і гурткі, трэба ставіць перад імі заданні. Трэба патрабаваць ад іх апрацоўкі праграмы працы і складання справаздачы з іх выканання.

У члены Таварыства прымаць людзей больш актыўных, бо ад актыўнасці членаў залежыць узровень працы.



 

# ДОМ РАМАНАВЫХ

Гурток БГКТ у Бялевічах заснаваны быў у красавіку мінулага года.

— Запісалася 27 асоб, — кажа старшыня гуртка Пятро Госцік. — Апрацавалі мы план дзейнасці. Перш за ўсё рашылі вывучыць нейкую беларускую п'есу. Настаўніца меляшкоўскай школы, наша зямлячка, Зіна Кахановіч, параіла нам зацікавіцца «Прымакамі». Яна стала нашым рэжысёрам. На ваяводскім аглядзе аматарскіх драмгурткоў мы з нашымі «Прымакамі» заваявалі першае месца. У гэтым сезоне, таксама пад кіраўніцтвам Зіны Кахановіч, апрацавалі мы «Паўлінку». 5-тага лютага ставілі яе ў сябе ў святліцы. Маем намер паказаць сваю «Паўлінку» ў суседніх вёсках. Можа нават зноў у Беласток удасца нам дабрацца. Усе члены нашага гуртка сістэматычна аплочваюць складчыны, усе падпісаліся на «Ніву» і на сельскагаспадарчыя курсы ходзяць. Хочам выбрацца недзе на экскурсію. Пакуль што збіраем на гэтае мерапрыемства грошы, між іншым, прызначаем на гэта даход, які дае нам пастаноўка п'ес.

— А ці ёсць у вас у вёсцы нейкія другія арганізацыі?

— А як жа. Ёсць партыйная арганізацыя, сельскагаспадарчы гурток і гурток вясковых гаспадынь. У іх саставе знаходзіцца многа членаў гуртка БГКТ.

Цётка Кацярынка, Марцінчыкава жонка, аднак, наракае:

— Няма ў нас моладзі: ні дзяўчат, ні хлопцаў. Усе параз'язджаліся па свеце. Так што нам старым прышлося ў беларускі гурток запісацца.

Седзячы за гарачым чайком у Марцінчыкавай хаце падводзім падлік эмігрантаў з вёскі Бялевічы. Найперш пералічваем тых, хто дабіўся вышэйшай адукацыі. Дзеці суседзяў, знаёмых, сваякоў, уласныя дзеці. Прозвішчы вядомыя ад дзедаў-прадзедаў. Але цяпер да гэтых прозвішчаў трэба дадаваць тытулы: інжынер, магістр, лекар, фармацэўт, геадэзіст, доктар, ад'юнкт, прафесар. Урэшце дзядзьку Марцінчыку не хапае пальцаў у абедзвюх руках.



Настаўніца Зіна Кахановіч з'яўляецца рэжысёрам бялевіцкага драмгуртка.

— У нас жа таксама было тры дачкі, — кажа цётка Кацярынка. — Бывала з жахам думала, што з імі будзе? Мы ж амаль беззямельныя. Хто захоча браць батрацкія дочкі? Цяпер я спакойна за іх. Вывучыліся, замуж павыходзілі таксама за інжынераў. Добра ім жывецца. Я старая, вясковая баба, але сваё ведаю, што за ўсё гэтае трэба дзякаваць нашай народнай уладзе!

Дык вось нечакана перакінуліся мы ад праблем працы і дзейнасці вясковага гуртка да спраў больш агульных, да спраў характэрных не толькі для вёскі Бялевічы. Жыве тут 52 гаспадары. Вёска раскінута па хутарах. Зямля нядрэнная. Многа лугоў і сенажацяў. Гэта асноўнае багацце бялевіцкіх гаспадароў. Кожны з іх трымае па 3—4 каровы і кожны прадае штодзень па 20—25 літраў малака, але ёсць і такія, што прадаюць нават па 40 літраў. Як не лічы, звыш 2-х тысяч злотых штомесяц плыве ў кішэню.

У Бялевічах цэняць час і тэхніку.

— Быў у нас адзін такі, — гаворыць дзядзька Марцінчык, — што яшчэ ў мінулым годзе спрабаваў сеяць з плахты, але і ён ужо адрокся. Цяпер мы ўсё робім гуртакоўскімі машынамі.

Сельскагаспадарчы гурток дзейнічае ў Бялевічах ад вясны 1963 года. У яго распараджэнні трактар і многа іншых машын. Усе яны выкарыстаны поўнасцю.

Гурток не мае страт. Значыць гаспадараць тут добра.

Адчыняюцца дзверы і разам з хваляй марозу ўваходзіць Юльян Кахановіч.

— Прымай Марцінчык дахоўку! — заяўляе ад парога.

— Аднак удалося? — пытае Марцінчык.

— Усё можа ўдацца, толькі трэба добра пахадзіць.

Потым высняецца, што дахоўка, якую ўласным канём прывёз з Гарадка Юльян Кахановіч, патрэбна на тое, каб пакрыць гаспадарчы будыначак, які пабудавалі пры мясцовай святліцы.

Прашу расказаць мне гісторыю бялевіцкай святліцы.

— Што ж мы будзем тут гаварыць, давайце пойдзем, пабачым гэты «Дом Раманавых».

— Дом Раманавых?

Кахановіч смяецца з майго здзіўлення. З яго скупых паясненняў, са слоў другіх субяседнікаў вынікае, што ў «царствуючую» сям'ю бялевіцкіх «Раманавых» апрача Кахановіча ўвайшлі яшчэ солтыс Вільдовіч, столяр Марцінчык, Аляксандр Кахановіч і некаторыя другія жыхары Бялевічаў. Так іх ахрысцілі мясцовыя жартаўнікі. За гэта, што яны першыя загаварылі пра будову ў сваёй вёсцы святліцы, што найбольш напрацаваліся пры пабудове гэтага «Дома Раманавых». Святліцу будавалі тут сапраўды грамадскім чынам.

І вось мы ў прасторнай, прыгожа адмаляванай зале. На сцэне — вялікі тэлевізар. За ім таксама аж у Беласток ездзіў Кахановіч.

— Не хацелі, чэрці, нам яго прадаць, але ўсё можна, толькі трэба добра пахадзіць.

Цётка Кацярынка стараецца нябачна адгарнуць з падлогі недакуркі.




— Гурток заснаваў у нас інструктар Літвін, — гаворыць старшыня гуртка Пятро Госцік.




— Прымай, Марцінчык, дахоўку, — кажа Юльян Кахановіч, адзін з заснавальнікаў «Дома Раманавых».




— Адны старыя засталіся, — уздыхае цётка Кацярынка, Марцінчыкава жонка.

— Штодзень прыходзяць з цэлай вёскі і да поўначы сядзяць пры гэтым тэлевізары. Нават не хочацца ім устаць, каб папяросу загасіць у попельніцы.

— А калі вось у суботу наш гурток даваў «Паўлінку», сабралося каля двухсот чалавек.

І так вось зноў мы вярнуліся да бялевіцкага гуртка БГКТ. Члены яго жывуць і працуюць у вёсцы. Тады ўсе справы вёскі іх моцна хвалююць.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Канферэнцыя Дуброўскага аддзела

(Працяг са стар. 2)

ся б узяць у рукі «Ніву» ці беларускую кніжку.

За гэтым і папраўлілася сужыццё насельніцтва на здаровых асновах.

«Няма ніякага сумнення, што БГКТ адыграла вялікую ролю для збліжэння насельніцтва», — сцвярджаецца ў дакладзе.

У карыснай але канкрэтнай дыскусіі гаварылася аб паляпшэнні працы аддзела і гурткоў, былі просьбы каб ГП больш цікавілася працай гурткоў і аддзела.

На ўвагу заслугоўвае адобраная ўсімі прапанова, каб сядзібу Дуброўскага аддзела перанесці ў Ячна.

На канферэнцыі выбралі 10-асабовае праўленне аддзела, якое ўзначаліў Іван Кіндзюк, рэвізійную камісію са старшынёю Юрыем Януцікам і дэлегатаў на V з'езд, сярод якіх знаходзіцца сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Пасля канферэнцыі прадэманстравана беларускі фільм «Чырвонае лісце», які выклікаў зацікаўленне ўсіх гледачоў.

(МЛ)

## АБ БГКТ ПІСАЛІ:

(Працяг са стар. 6)

*grywa Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne...*

*...Obecnie pierwszoplanowym zagadnieniem jest intensyfikacja działalności oświatowej. Nawiązywanie w niej do bogatej spuścizny postępowej współpracy białorusko - polskiej i jej lokalnych tradycji, stanowi ważną funkcję internacjonalistycznego wychowania społeczeństwa...*

*...W konkretnym działaniu wyrastają nowe kadry aktywu głęboko związanego z życiem rodzinnej wsi, miasta; wolnego od narodowych uprzedzeń. Jest to rezultat wysiłku wielu instytucji i organizacji społecznych, w tym i BTS-K".*

„Gazeta Białostocka" nr 42 (3271) 19.II.62 r.

### „LAWONICHA" PRZYJECHAŁA!

*„Ale „Lawonicha" nie tylko koncertuje — śpiewa i tańczy. Systematycznie współpracuje również z wiejskimi zespołami amatorskimi, przychodząc im z nieocenioną wprost pomocą fachową".*

„Gazeta Białostocka" nr 218 (3447) 13.IX.62 r.

### UCZĄ SIĘ BIAŁORUSKIEGO JĘZYKA

*„...Nauczanie języka białoruskiego jest jednym ze specyficznych momentów procesu wychowawczego w środowisku mieszanym narodowościowo, procesu, który warunkuje prawidłowe oddziaływanie szkoły na otoczenie.*

*Najbliższe plenarne posiedzenie Zarządu Głównego BTS-K poświęcone będzie zagadnieniom dalszego rozwoju oświaty na terenach zamieszkałych przez ludność białoruską."*

„Gazeta Białostocka" nr 247 (3486) 17.X.62 r.

### O WŁAŚCIWĄ ATMOSFERĘ W SZKOLE I ŚRODOWISKU

*„W pow. hajnowskim i bielskim istnieje po kilkanaście wiejskich szkół podstawowych z białoruskim językiem wykładowym. Ich doświadczenia wychowawcze wywołują ostatnio duże zainteresowanie wśród pedagogów. Nauczanie języka białoruskiego rozpoczyna się w nich od klasy pierwszej szkoły podstawowej, a nie od drugiej jak w innych szkołach. Dziecko jest w tym okresie bardzo chłonne na materiał podawany przez nauczyciela w znanym mu języku białoruskim. Mniej boleśnie przeżywa okres przygotowawczy, łatwiej przywiązuje się do szkoły. Bo przecież dialektem tego języka posługują się jego rodzice i otoczenie...*

*...Zagadnieniom tym poświęcono wiele uwagi na ostatnim plenarnym posiedzeniu Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku i na poprzedzających je konferencjach nauczycielskich".*

„Gazeta Białostocka" nr 301 (3540) 19.XII.62 r.

### W ZASIĘGU BTS-K

*„Białorusini działając w swojej organizacji — w Białoruskim Towarzystwie Społeczno - Kulturalnym — i poza tą organizacją, na równi z innymi mieszkańcami Polski pomnażają jej dorobek we wszystkich dziedzinach".*

„Gazeta Białostocka" nr 166 (3714) 15.VII.63 r.

Выпшукаў у архівах і выбраў — **С. Яновіч.**

### ШТО ГЭТА?

**Развязка адгаданкі са стар. 8: тыповая гарадская сцэна, інакш: цягнуць у БГКТ інтэлігента.**





**Праграма на 1—6 III. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Wraki'(' polski), 1—2. „Lek" (czeski). 3—4. „Inspektor i noc" (bułg.), 5—6.

**Кляшчэлі**

„Harry i kamerdyner" (duński), 1—2. „Człowiek, który wątpi" (radz.), 3—4. „Pingwin" (polski), 5—6.

**Дубіны**

„Profesor" (franc.), „Bracia" (bułg.), 5—6.

**Нарва**

„Nieletni świadek" (angl.), „Pięciu" (polski), 2—6.

**Нараўка**

„Dwie strony medalu" (angl.), „Jest taki chłopak" (węgierski), 2—6.

**Чыжы**

„Mansarda" (polski), „Irena do domu" (polski', 2—6.

**Дубічы Царкоўныя**

„Szczęściarz Antoni" (polski), „Człowiek, który wątpi" (radziecki), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Car Kałojan" (bułg.), „Ruda Julka" (franc.), 2—6.

**Орля**

„Przemytnik z Piemontu" (franc.), „Ostatni świadek" (NRF), 2—6.

**Райск**

„Czapajew" (radz.), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Umarli milczą" (NRD), I s., „Umarli milczą" (NRD), II s., 2—6.

**Міхалова**

„Futrzany gang" (angl.), 1—2. „Testament uczonego" (radz.), 3—4. „Olbrzym" (USA), 5—6.

„Powodzenia, chłopcze" (jugosłowiański), 1—2. „Gdzie twoje miejsce" (czeski), 3—4. „Urocza gospodyni" (USA), 5—6.

**Мілейчыцы**

„Przebudzenie" (czeski), 1—2. „Susza" (brazylijski), 3—4. „Człowiek, który zabił Liberty Valencea" (USA), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 1—2. „Wojenna przyjaźń" (węgierski), 3—4. „Ojciec żołnierza" (radz.), 5—6.

**Шудзялава**

„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Skowronek" (rumuński), 2—6.

**Сідра**

„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 1—2. „Człowiek z przeszłością" (radz.), 3—4. „Ameryka, Ameryka" (USA), 5—6.

**Сухаволя**

„Był sobie dziad i baba" (radziecki), 5—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Człowiek z I-ego stulecia" (czeski), „Prawo i pięść" (polski), 2—6.

**Ліпск**

„Jadą goście, jadą" (polski), „Biała karawana" (radz.), 5—6.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie —14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Bhk 563 D-3

# Гумар і сатыра

(Пры стале, адзін пры другім, шчыльным колам сядзяць акаўпачаныя - цені дзеячаў, актывістаў і дыскутантаў. Заслона ідзе ўгору ў момант, калі на сцэне раздаюцца доўга несціхаючыя, бурныя апладысменты).

— ...Ну, а цяпер, хлопцы, давайце падыскутуем аб БГКТ. Мы зашлі ў такі тупік, што нам трэба рэарганізавацца. Многа мы не напрацаваліся, але гэта сведчыць аб нашай дынамічнасці, арганізацыйнай жывучасці.

— А што такое БГКТ?

— БГКТ? Дом пры Варшаўскай 11, у якім памяшчаецца цудоўная святліца энтузіястаў і сімпатыкаў беларускай культуры.

— БГКТ — інструктар, сігналізатар, рэпрэзентатар, таталізатар, інквізі...

— Гэта вы аб гэтай аўгіевай канюшні гаворыце? А ерунда! І ціха. Я хачу нарэшце заняцца літаратурнамастацкім аб'яднаннем...

— Дзе вашыя амбіцыі, з якімі я да гэтага часу лічыўся? Што такое БГКТ — я ведаю. Чым яно павінна быць — вось пытанне. Мы ж рэарганізуемся.

— А чым павінна быць «Белавежа», вы ведаеце? Я толькі ведаю. Але я не буду захапляцца яе дасягненнямі. І не буду захапляцца сваёй роляй у аб'яднанні. Трывожныя сігналы паяўляюцца — вось што.

— Верце ў тое, што ён гаворыць і — у друкаванае слова. Яно ў гісторыю вас зацягне.

— На БГКТ-аўскіх плячах мноства аблудных абавязкаў...

— Паважаныя сябры, надзвычай мілыя гледачы, і вы, надзейныя чытачы, нам трэба пакончыць з дубліраваннем форм і металаў працы іншых арганізацый. Не дубліруйце, бо нягледзячы на вялікія недахопы, усё ж можна з чыстым сумленнем не чырванець.

## Э-ЭЙ! УХНЕМ!

— Кадры вінаваты. Кадры — асноўная справа. Таму нам неабходна стварыць ядро, штаб людзей, якія б планавалі і кіравалі. Яны — а не мы.

— У магічныя лічбы трэба верыць, грамадзяне. Прапаную паклікаць 44 старшынь, 44 сакратароў: 44 падначалены 43, 43 падначалены 42, 42 падначалены 41...

— А можа гурток вінаваты?

— Гурток вінаваты??? Іх няма ж!.. А... э... не тое, цьфу... — Так! Гурток вінаваты! (апладысменты).

— А гэта я першы сказаў, што ў гуртках «мёртвыя душы». Я першы, я першы...

— ...32 падначалены 31, 31 падначалены 30...

— Гаворыце, гурткі нежыццяздольныя? Эй, хлопцы, не веру. От жа ж паеду калі і пабачу.

— ...3 падначалены 2, 2 падначалены 1. Ух! А... а што такое гурток?

— Вазьмі энцыклапедыю «Аб гуртку амаль усё» і пачытай.

— Усё ясна. Так, так і трэба. Вось яно дзе. Аб ідэалогіі як складна. І аб філасофіі гладка. А гісторыя — дасканала. І дзе ж тут развязваць гурткі, калі яны, так сказаць, у кніжках апісаны?

— Толькі гурток! Без гуртка нам, — кажы, — прапала.

— Брава! Нам — толькі з гуртком, ніяк — без гуртка...

— Мае пачцівыя сябры, але дубліроўка...

— Развяжыце гурткі, развяжыце гурткі...

— Можа калектыўнае членства...

— Каб цэлыя вёскі прыязджалі? Што вы? Штаб не вытрымае.

— А можа моладзь вінавата?

— Моладзь? Не! Яна вас ажыццявіць.

— А што такое моладзь?

— Моладзь патрабуе ўвагі да сябе і хоча сучаснасці.

— І джаза?

— І джаза.

— І самбы з румбай?

— І самбы з румбай.

— А гэтага... народнага... рай-тай-тай — не?

— А гэтага рай-тай-тай — не!

— Моладзь вінавата!

— А гэта я першы сказаў, што моладзь вінавата... я... я... (на сцэне пачынаюць сварыцца, і таму апусцім заслону).

СІДАР ГРЫЗУН

## АКРУГЛІЎ

— Колькі ўжо ў вашым гуртку складчын сабралі? — спыталі аднаго старшыню гуртка.

— У сярэднім каля трыста злотых выйдзе.

— А дакладней?

— Калі акругліць, злотых так чатырыста будзе.

— Ну, а ўсё ж колькі?

— Дзвесце.

**УСЁ ЛЮДСКОЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ**

Малая палеміка.

## ШТО ГЭТА?



Падумай, а калі фантазія падвядзе цябе, тады скарыстай з развязкі, якую знойдзеш унутры нумара.

# Прысніласся прапанова

Ад часоў, калі павяліся ў «Ніве» артыкулы аб паляпшэнні дзейнасці Беларускага таварыства, абступаюць мяне страшныя сны.

Ого, страшны сон!

Сняцца мне ўсялякія прапановы што да лепшага Беларускага таварыства. Начытаешся гэтых прапаноў, і пасля мучаць яны ўсю ноч да белага дня. Жонка думае, што я закахаўся ў суседцы, а я не магу прызнацца ёй у прапановах з «Нівы», бо і пашто прызнавацца — не паверыць, гатова закіпець і махлярам абазваць. Цаню сямейны лад, які б ён там не быў!

Але явіцца цэлы Нью-Йорк прапаноў, а кожная з іх бы той небаскроб. Ох, і высокія яны пад неба і, здаецца, Таварыства пануе над светам нашым марным, які ў дурнасці сваёй не падазрае, хто валадар ягоны!?

Не смейцеся!

От, прысніласся мне пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага таварыства. Пасяджэнне адкрыў генеральны старшыня і даў голас падгенеральнаму старшыні. Падгенеральны старшыня выступіў з прамоваю аж да вечара і перадаў слова падпадгенеральнаму старшыні, які гачарыў цэлую ноч да ранку.

Праходзілі суткі.

На дзесяты дзень дайшоў да голасу сакратар, а пад канец месяца, напярэдадні выплаты, кончыў выступаць трыццаць сёмы намеснік сакратара.

Пасяджэнне было прысвечана ўдзяленню ўказанняў інструктару Ваньку адносна яго задач на месяц. Інструктар Ванька адзін усяго і адзіная ён апора арганізацыйная.

Ванька ведае сваю важнасць для лёсу Таварыства і цэлага свету, таму сваімі вушамі слухаў прамоў, а сваімі рукамі цацаў грудзістых актывістак ягоных. Бо і праўда: вушы адно, а рукі другое; вушам работа і рукам таксама.

Дваццаць пяць падпадпадпадпадгенеральных старшынь і семдзесят сем намеснікаў сакратара на чале са старшынёю і сакратаром вельмі задаволены Ванькінымі вушамі.

І так кіпела дзейнасць у Беларускім таварыстве, аж я прачнуўся ад зайздрасці.

Цяпер канчаецца чарговы месяц кіпучай работы Ванькі для дабра свету; канчаецца чарговы месяц пільнага кіраўніцтва ГП Беларускім таварыствам і светам.

Брава, брава, брава!..

*

Такім прысніласся мне здзяйсненне адной прапаноў, якая ашчаслівіла цярплівыя старонкі цярплівай «Нівы».

КОЛЬКА СПЛЮХ

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Хвядоры Хахатун і Яфрэма Смехуварта з Паджарышч змяшчаем песню п. з.

### Плач старшыні гуртка

(на мелодыю «Восемнадцать лет»)

За вуглом, за вязам
Сонейка заходзіць.
Чаму ж то інструктар
Да нас не прыходзіць?

У святліцы моладзь,
Людзі у святліцы...
Што цяпер-ка будзе,
Святыя, скажыце?

О гурток, гурток мой,
Ты асірацелы,
Без душы, без сэрца,
Без крыві і цела.

Як жа ж мне ўсміхнуцца,
Выступаць на сцэне,
Калі аніяк нас
У Гапэ не цэняць?

Чаму ж не прыехаў
Ты да сіраціны?
Ой, інструктар ўрэдны!
Ой жа ж ты, скаціна!

А мы ўсё без планаў
Вядзем свой напрамак.
І не можам выйсці
З «грамадаўскіх» рамак.

Занясло сумненнем
Свет наш навакольны —
Можа і сапраўды
Мы нежыццяздольны?

І. ЧЫКВІН

## НАША БАГАЦЦЕ

(або амаль анекдоты)

У актыве БГКТ многа педагогаў («Я вас навучу!»).
У актыве БГКТ многа акрабатаў («Я вам пакажу!»).
У актыве БГКТ многа вучоных («Я вам растлумачу!»).
У актыве БГКТ многа маралістаў («Сорам саромецца роднай мовы!»).
У актыве БГКТ многа бывалых людзей («Ведаю адзін такі гурток, у якім ляпей, чым у вашым!»).
У актыве БГКТ многа элегантаў («На старшыню прапрапаную выбраць Агату, дзяўчыну — кроў і малако!»).
У актыве БГКТ многа няведаючых роднай мовы («Народ нас п а п р э!»). (ся)

## Між намі

Калі Бог хоча каго-небудзь пакараць, ён пасылае яго па сучасную п'есу для мастацкай самадзейнасці.

## НАШЫ ПАРАДЫ

Узбіраючымся на Парнас «белавежцам»

Памалу, але надзейна...

«НАШЫ ІНТЭРВ'Ю» («НІВА»)

— А як вы праводзіце свой свабодны час?